


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

20 ліпеня 2001 года
№ 29 (326)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Усплёск нараджальнасці?

**МАЛАДЗЕЧНА**. Галоўны ўрач раддома **Аляксандр Лавіт** адзначае, што ў горадзе назіраецца стабілізацыя нараджальнасці.

За апошнія 6 месяцаў 2000 года і першыя 6 месяцаў 2001 года колькасць родаў – 666. З ліпеня і адбываецца ўсплёск нараджальнасці. Прыкладам, толькі за першыя 12 дзён гэтага месяца нарадзілі 90 жанчын. На суткі прыходзіцца не менш за 8 родаў.

Наогул жа, па Мінскай вобласці летась нараджалі 12849 жанчын, што на 59 больш, чым у 1999 годзе.

Ірына РАБУШКА.

### Страхавых агентаў пасадзілі на веласіпеды

**ВАЛОЖЫН**. 4 веласіпеды для сваіх страхавых агентаў набыло валожынскае аддзяленне "Белдзяржстраху".

Атрымалі іх ветэраны арганізацыі, тыя, хто абслугоўвае сельскія саветы. Паступова такі від транспарту займеюць астатнія 18 агентаў.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### Тлумачальныя за газеты

**АШМЯНЫ**. Двух падлеткаў, якія раздавалі гараджанам газеты "Наша свабода" і "Народная воля", выклікалі разам з бацькамі ў міліцыю.

Як сказаў грамадскі праваабаронца, юрыст **Дзмітрый Каляда**, з бацькоў узялі пісьмовыя тлумачэнні і адпусцілі іх разам з дзецьмі.

Юрый КАРПІЦКІ.

### П'яных падлеткаў стала меней

**ВАЛОЖЫН**. Кожную нядзелю ў Валожыне праходзяць рэйды з удзелам работнікаў міліцыі і маладых добраахвотнікаў.

Рэйды праходзяць па месцах масавага адпачынку моладзі. Як гаворыць в. а. загадчыка аддзела па справах моладзі райвыканкома **Ала Матуць**, апошнім часам стала менш выпадкаў парушэнняў у маладзёжным асяроддзі. Асабліва знізілася колькасць затрыманых у нецвярозым стане.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Рэгіянальная экалогія

**МАЛАДЗЕЧНА**. На II стратэгічнай сустрэчы экалагічных арганізацый "Зялёнае будучае ў руках зялёных" горад прадстаўляў экалагічны цэнтр "Крыніца" і філіял №3 бібліятэкі (інфармацыйна-экалагічны цэнтр).

Адзначана, што на асваенне эканамічных тэхналогій, напрыклад, ветраной помпы, нестае сродкаў. Дасведны ўзор зробяць на заводзе "Унікаб"

ЭЦ "Крыніца" дамовіўся аб супрацоўніцтве з цэнтрам экалагічнага выхавання "Зялёная дуброва" з Мядзела.

Алег БЯГАНСКІ.

### Мядзяльчанін пад Грунвальдам

На выхадных у Польшчы каля вёскі Грунвальд прайшоў штогадовы рыцарскі фестываль. Прычым на тым самым месцы, дзе ў 1410 годзе аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы разбілі крыжакоў. Удзельнічаў у фестывалі і мядзяльчанін **Мікалай Малько**.

Увогуле усё было грандыёзна – толькі рыцараў і байцоў налічвалася больш за тысячу. Прыехалі яны з Польшчы, Беларусі, Літвы, Германіі, Чэхіі, Украіны, Расіі, Літвы, Італіі. Ад сцэнарыя бітвы 1410 года не адыходзілі – і нашы зноў перамаглі. Між іншым, у Польшчы дзень Грунвальдскай бітвы, 15 ліпеня, – дзяржаўнае свята.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Надвор'е на выхадныя

Субота, 21 ліпеня

**Мінск**
14 – 16°C (уначы)
23 – 29°C (удзень)



**Вільня**
13°C (уначы)
23°C (удзень)



Нядзеля, 22 ліпеня

**Мінск**
16 – 17°C (уначы)
22 – 29°C (удзень)



**Вільня**
11°C (уначы)
24°C (удзень)



# Таццяна Несцяровіч – урач «Надзеі»

**ВІЛЕЙКА. Адзін з самых дасведчаных урачоў Вілейшчыны Таццяна Несцяровіч жыве ў горадзе з 1964 года.**

Родам яна з Мінска. Гаворыць, што прафесія ўрача – яе прызванне. Большую частку жыцця працавала дзіцячым урачом. Вілейку любіць. Хаця пасля смерці маці цягне назад у сталіцу.

У медыцыну прыйшла пасля заканчэння 7 класаў – медсястрой у радзільны дом. Калі трэба было рыхтаваць дзіцячых урачоў, яе накіравалі ў Днепрапятроўскі мединстытут, бо ў Беларусі тады не было педыятрычнага факультэта.

Потым – Вілейка, дзе працавала дзіцячым урачом у бальніцы, затым на ўчастку.

З 1997 года працуе ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея". Сюды трапіла толькі пасля таго, як прайшла конкурс.

Тут займаецца лячэбнай і прафілактычнай работай з дзецьмі. Навучае іх здароваму ладу жыцця. Лічыць, што ён, як паветра, неабходны тым, хто жыве на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі.

У яе самой тры сыны. Усе маюць вышэйшую адукацыю.

Юрый КАРПІЦКІ.

**Рэпартаж з рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра «Надзея» змешчаны на 2-й стар.**




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

Таццяна Несцяровіч ля медыцынскага корпуса дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра «Надзея».

## Экспрэс-апытанне смаргонцаў

**Днямі А. Лукашэнка даў згоду на прызначэнне Станіслава Юргеля старшынёй Смаргонскага райвыканкома (яго папярэднік Мікалай Кавалёў прызначаны старшынёй Камітэта дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці).**

# Якімі якасцямі мусіць валодаць новы старшыня выканкома?



**Аляксандр Дзергачоў, юрыст:**

– Гэты чалавек не павінен выказвацца матам, бо, усё ж, некаторыя чыноўнікі ў Смаргоні без гэтага не абыходзяцца. Не праследаваць людзей, якія не згодныя з курсам існуючага кіраўніцтва. Ён у сілах стварыць дзеяздольную каманду сваіх падначаленых, якія працавалі б на карысць простых людзей. Тэарэтычна такія кіраўнікі ў горадзе ёсць.



**Пётр Крукаў, дырэктар бюро падарожжаў і экскурсій:**

– Ён павінен быць сумленным і прыстойным, валодаць добрымі арганізатарскімі здольнасцямі. Акрамя гэтага, новы старшыня выканкома мусіць быць інтэлектуалам і добра ведаць сваю справу.



**Таццяна Лабоха, бухгалтар:**

– Перш-наперш, калі ў новага старшыні выканкома будзе дагледжаны і абуладкаваны ўласны дом, то і ў горадзе ён зможа навесці чысціню і парадак. Мужчына ці жанчына будзе – неістотна, але хацелася б, каб была прадстаўніца прыгожай паловы чалавецтва, і абавязкова добрая. Дабрыня выратоўвае свет, і Смаргонь – не выключэнне.



**Ягор Лявіцкі, юрыст СЗАС:**

– Павінен мець досвед гаспадарчага кіраўніцтва, быць прынцыповым і не адыходзіць ад літары закона ні на крок. Рэальна пад падобныя якасці падпадае дырэктар СЗАС **Аляксандр Радзевіч** (апытанне праводзілася да рашэння А. Лукашэнкі). Калі б ён стаў кіраўніком Смаргоншчыны, то ўсе былі б у выйгрышы. На цяперашняй пасадзе ён паказаў свае кіраўнічыя здольнасці.



**Ганна Страшкевіч, метадыст:**

– Сумленны, справядлівы і добры. Не скажу, хто канкрэтна, але такія людзі, здольныя кіраваць горадам і раёнам, у нас ёсць.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ПРАВЕДНІКІ СВЕТУ

# Антон Шніп выратаваў двух дзетак і атрымаў званне Праведніка свету

**ВАЛОЖЫН. У гады другой сусветнай вайны Антон Шніп выратаваў двух дзетак. А ў 1997 годзе ён атрымаў ліст з Ізраіля. Там было пазначана, што Антону Шніпу прысвоілі званне Праведніка свету.**

Цяпер А. Шніпу 88 год. Узімку яны з жонкай едуць у Мінск да сына: цяжкавата перазімаваць адным. Дзядуля – інвалід першай групы, у яго слабыя вочы. Ёсць у сям'і Шніпаў яшчэ дзве дачкі. Адна ў Мінску, другая – у Маскве.

Антон Шніп расказаў карэспандэнтам "РГ" тую гісторыю.

– У 1942 годзе захварэла мая жонка. У суседняй вёсцы немцы арганізавалі лячэбны пункт. Там працаваў малады ўрач **Арон Бабкіс**. Да нашага хутара было 2 кіламетры, таму ўрач вырашыў не браць фурманку, а пайсці пешшу. Яму спадабалася нашая сям'я, урач расказаў пра сябе. Сам ён родам з Беластока. Скончыў Пражскі універсітэт, потым – Віленскі. Жыў у Вільні. Там ажаніўся з дзяўчынай-яўрэйкай з-пад Маладзечна. Перад вайной пераехалі на радзіму жонкі. Арон Бабкіс працаваў галоўным урачом у маладзечанскай бальніцы.

Пачалася вайна. За Бабкісамі прыслалі машыну, але яны не паспелі эвакуіравацца. Пайшлі пешшу. Дайшлі да Краснага, але немцы павярнулі бежанцаў назад. Па дарозе дадому загінула жонка Арона. Дзяцей Арон схаваў першым часам у бальніцы. Потым хаваўся па вёсках Маладзечаншчыны і Валожыншчыны. І ўладкаваўся ў лячэбны пункт.

Аднойчы да нас пагрукалі ноччу ў дзверы. Прыйшоў Арон і папрасіў дапамагчы схаваць дваіх дзяцей – хлопчыка і дзяўчынку. Я згадзіўся. Праз колькі дзён прыехала фурманка. Нейкі мужчына пакінуў пад дрэвам дзяцей – я не паспеў разгледзець, хто гэта – і паехаў.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Антон Шніп і яго жонка Надзея.**

Дзяўчынку **Аду** – яна старэйшая – узяў да сябе дзядзька жонкі, а хлопчыка **Хаіма**, якому было 2 гады, аддалі знаёмым у суседнюю вёску.

Арон пакінуў нашаму суседу адрас сваёй радні ў Маскве. Сусед уцёк разам з немцамі, у канцы вайны загінуў Арон. Я даслаў ліст у Маскву, у 1947 годзе прыехаў дзядзька і забраў дзяцей.

Ада скончыла Харкаўскі універсітэт, цяпер жыве ў Амерыцы. Дзякуючы ёй, мне далі званне Праведніка свету. Летась мая дачка ездзіла ў Амерыку. Там яна даведалася, што Ада захварэла і ляжыць у шпіталі. Пасля гэтага звестак мы не маем. Як склаўся лёс Хаіма, я не ведаю.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ НАША ГІСТОРЫЯ

# Помнік герою

**МЯДЗЕЛ. На сумежжы Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў у нядзелю, ва ўгодкі Грунвальдскай бітвы, ушанавалі памяць патрыёта Беларусі і Польшчы Фларыяна Даноўскага. На могілках ля вёскі Канябічы, дзе ён пахаваны, мясцовы каталіцкі святар айцец Павел адправіў імшу. Прыехалі людзі з Мядзела, Паставаў, Камарова, сабраліся і з суседніх вёсак.**

Фларыян Даноўскі два разы быў у ссылцы, цярпеў катаванні (другі раз – за удзел у паўстанні 1863 года). Апошнія гады жыцця пражыў на Пастаўшчыне. На надпісе на надмагільным помніку сярод іншага ёсць і такое: «На зямлі роднай адпачыў пасля гераічнага жыцця. Людзей палюбіў, працаваў і цярпеў за іх».

У сакавіку наступнага года будуць сотыя угодкі з дня смерці патрыёта. Мастак, сябра творчай суполкі «Пагоня» **Алесь Цыркуноў** мяркуе зрабіць велічны помнік Фларыяну Даноўскаму. Эскіз ўжо распрацаваны. Вядома, не будзе залішняя і дапамога: як матэрыяльная, так і работай. Ахвотныя могуць звяртацца да Алеся Цыркунова на адрас: вёска Чэхі, д. 2, Мядзельскі раён.



**Эскіз помніка Фларыяну Даноўскаму.**

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Клуб маладой сям'і

**АШМЯНЫ. У горадзе створаны клуб маладой сям'і.**

Арганізатары плануюць збіраць удзельнікаў раз у квартал, запрашаць на пасяджэнні псіхолагаў, юрыстаў, вырашаць іншыя пытанні.

Першае пасяджэнне запланаванае на пачатак жніўня. Аналагічныя клубы з поспехам працуюць у раёне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

# Палітычны разгром

**МІНСК. Калі 17 ліпеня наранiцы супрацоўнікі газеты «День» прыйшлі ў рэдакцыю, то пабачылі адчыненыя вокны і свае разгромленыя камп'ютэры. Кіраўніцтва грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" лічыць, што разгром рэдакцыі мае выразна палітычны, а не побытавы характар, і ўчынены вельмі прафесійна.**

На гэта ўказвае цэлы шэраг абставінаў. Ніякія каштоўныя рэчы з рэдакцыі не зніклі: некранутымі засталіся маніторы і прынтэры камп'ютэраў, а таксама партатыўны камп'ютэр-ноутбук. Украдзеныя толькі вінчэстэры камп'ютэраў, на якіх захоўвалася інфармацыйная база газеты.

Памяшканне рэдакцыі знаходзіцца на высокім другім паверсе. Аднак наранiцы на траве пад вокнамі рэдакцыі не было ніякіх слядоў, якія маглі б сведчыць пра тое, што нехта спрабаваў трапіць у памяшканне праз вокны. На жалезных дзвярах таксама няма слядоў узлому. Выглядае, што яны былі адамкнутыя нейкімі ключамі. Рэдакцыя, дарэчы, здымае памяшканне ў будынку кінастудыі "Беларусьфільм", які ахоўваецца.

Праўленне Беларускай асацыяцыі журналістаў ацаніла здарэнне ў рэдакцыі "Дня" як расправу над газетай, якая надрукавала некалькі вострых матэрыялаў. – Мы лічым, што апошнім часам пэўныя палітычныя сілы выкарыстоўваюць крымінальныя метады для ціску на незалежныя СМІ, – сцвярджае прэзідэнт БАЖ **Жанна Літвіна**.

Намеснік галоўнага рэдактара "Дня" **Анатоль Гуляеў** сказаў, што, хутчэй за ўсё, чарговы – чацвярговы – нумар газеты чытачы не атрымаюць: тэхнічная база рэдакцыі вельмі пацярпела ў выніку інцыдэнта. Аднак з дапамогай калег-журналістаў яна будзе аднаўленая цягам найбліжэйшых дзён і далей газета пойдзе паводле графіка.

– Ніякія перашкоды не замінуць нам даносіць да чытача праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю, – адзначыў таксама А. Гуляеў.

**Прэс-служба ГА "БАЖ".**

# Свята ў Гудагаі

**АСТРАВЕЦ. У мястэчку Гудагай у мінулую нядзелю ў касцёле наведвання Маці Божай прайшла імша, прысвечаная 750-годдзю аб'яўлення Маці Божай Шкаплернай.**

Акрамя мноства вернікаў з Астраўца, Ашмянаў і суседніх вёсак, на свята прыехалі ксяндзы. Біскуп **Аляксандр Кашкевіч** адслужыў імшу.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# На радзіму продкаў

**ВАЛОЖЫН. Тыдзень таму ў горад прыязджалі 15 чалавек з Ізраіля і ЗША. Ва ўсіх аднолькавае прозвішча – Кагановічы.**

Адсюль пачынаўся іх род. Дзед і бабуля выехалі з Валожына напачатку мінулага стагоддзя, калі толькі пачыналася першая хваля эміграцыі.

За гэты дзень яны пагледзелі могілкі, цікавілі іх і старыя пабудовы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ЛЕТА

# «Нямецкі» тыдзень у «Надзеі»

**ВІЛЕЙКА. У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея" ідзе "нямецкі" тыдзень. 13 ліпеня ў цэнтр, што знаходзіцца ля вёскі Будзішчы, прыехала нямецкая дэлегацыя з 11 чалавек. У асноўным, гэта выкладчыкі.**

Яны арганізавалі 5 гурткоў. **Габі Крэпс** і **Карл Базан** вучаць дзяцей класці мазаіку. **Штэфі Шульцэ** і беларускія дзеці робяць драўляны макет прыроднага ландшафту ля горада Коблінца. **Крыстаф Загнер** прывез вялікія надзіманыя мячы і праводзіць урокі з дзецьмі і работнікамі цэнтра. Бо потым яны будуць працаваць з навучэнцамі па такой тэхналогіі. А **Сабіна Краус**, **Піа Шцёкл** і **Марсель Вільгельмі** займаюцца з дзецьмі на прыродзе. Яны будуюць "прыродны тэлефон", канатную дарогу і праводзяць гульні.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Адзін з дамоў, дзе жывуць выхаванцы «Надзеі».**

Цэнтр прызначаны для аздараўлення і рэабілітацыі дзяцей, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ён працуе круглы год. За змену ў 28 дзён цэнтр можа прыняць да 205 чалавек. Тут ёсць магчымасці падлячыцца. Цэнтр мае унікальнае звышсучаснае абсталяванне. Некаторыя прыборы, што ёсць у цэнтры, рэдкія ў Беларусі.

Ёсць тут магчымасці і для развіцця дзяцей. У цэнтры працуе 21 гурток. Як сказаў выкладчык **Уладзімір Цанунін**, дзецям рэкамендуюць займацца максімум у 5 гуртках. На практыцы атрымліваецца, што мінімум у васьмі.

З асабістых уражанняў дадам, што цэнтр выглядае, як дзяржава ў дзяржаве. Усё новае, прыгожае, сучаснае, паўсюль парадак. Што рэзка кантрастуе з тым жыццём, якое бачыш за межамі цэнтра.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, ліпень**

20–22 **"Гладыятар-2. Аціла"**, ЗША, 2 серыі (на відэасістэме) 17-30, 21-00
**"Выкраданне чэмпіёна"**, ЗША (на відэасістэме) 15-00
23–29 **"Спаун"**, ЗША 17-00, 22-00
**"Людзі гонару"**, ЗША (на відэасістэме) 14-30, 19-30

**Для дзяцей**

20 – **"Аперацыя "далмацінцы"** (на відэасістэме), ЗША, 11-00
21 – **"Воўк і цяля"**, Расія, мультпраграма 13-00
22 – **"Тайна жыхароў Месяца"**, Францыя, паўнаметр. мультпраграма 13-00
23 – **"Гісторыя пра прынцэсу-пастушку і яе вернага каня Фаладу"**, Германія 11-00
24 – **"Полі-2"** (на відэасістэме), ЗША 11-00
25 – **"Кароль футбола"** (на відэасістэме), ЗША 11-00
26 – **"Адзін у лесе-2. Маленькі герой"** (на відэасістэме), ЗША 11-00

■ ДНІ

24 ліпеня – **90 год з дня нараджэння А. Астрэйкі** (1911–1978), беларускага паэта.

**75 год з дня нараджэння В. Церашчатавай** (1926–1992), беларускага мастацтвазнаўцы.

■ ІМЯНІНЫ

**20 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Еўдакіі, Ефрасінні, Марыі, Акакія, Германа, Лук'яна, Фамы.

**Каталіцкія**: Гераніма, Часлава.

**21 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Пракопа, Феафіла.

**Каталіцкія**: Андрэя, Віктара, Данеля.

**22 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Марыі, Аляксандра, Кірылы, Панкрата, Фёдара.

**Каталіцкія**: Марыі.

**23 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Аляксандра, Антона, Апалона, Данілы, Лявона, Маўрыкія.

**Каталіцкія**: Брыгіды, Апалінара.

**24 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Алены, Вольгі, Яўфіміі.

**Каталіцкія**: Крыстыны.

**25 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Марыі, Арсеня, Гаўрылы, Івана, Міхаіла, Сімана, Фёдара.

**Каталіцкія**: Крыштофа, Якуба.

**26 ліпеня**

**Праваслаўныя**: Андроніка, Гаўрылы, Серапіёна, Сцяпана, Юльяна.

**Каталіцкія**: Ганны, Міраславы, Аўхіма.

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Без выбару

**Гарачыня, што, здаецца, спальвае ўсё навокал, гоніць людзей як мага далей прэч ад сонца, да вады. У такія дні галаву не надта хочацца загружаць якімісьці думкамі. Спёка традыцыйна спадзе недзе напачатку верасня. А там нас апануюць праблемы пачатку навучальнага года, дажынак, уборкі бульбы і, урэшце, на першы план выйдуць выбары другога прэзідэнта краіны. Таму менавіта цяпер – падчас летняй сіесты – і давядзецца паразважаць, дзе ўзяць грошы.**

Аднак дыяпазон магчымасцяў для заработку пастаянна звужваецца. У выніку бясконцых зніжэнняў стаўкі рэфінансавання банкі рэзка зменшылі выплачваемыя грамадзянам даходы па ўкладах. Цяпер стаўкі складаюць ад 50% пры ўкладах да 70% пры гадавых дэпазітах, што прыкладна ў два разы ніжэй за даходы зімы-пачатку вясны. Падзенне ставак вядзе да адтоку тэрміновых дэпазітаў насельніцтва ў банках, аднак рублі ўсё адно няма куды падзець, калі толькі не выдаткоўваць на буйныя пакупкі.

Таму грамадзянам можна яшчэ даверыцца банкам – да пачатку восені. Зрэшты, і выбару ў нас няма. Стаўкі зменшыліся і па валютных укладах на 1-2%, што знізіла іх прыцягальнасць пры дастаткова высокай рызыцы.

Цяпер пра долар. Гэтаму заморскаму фрукту нашая спёка звыклая, таму пачувае ён сябе ўсё лепей. Апошнім часам узмацніўся амаль на 50 рублёў. І каля абменных пунктаў ізноў з'явіліся некалі звыклыя групы бабулек-скупшчыц «зеляніны». Прагнозы пра трываласць беларускага рубля да канца лета на ўзроўні 1500 за долар вельмі аптымістычныя, аднак знаснаваныя толькі на адным: нішто не павінна азмрочваць беларускага выбаршчыка ў першы тыдзень гэтай восені.

І ўлады абяцаюць трымаць сітуацыю пад кантролем. Ці будзе гэта падмацавана фінансавымі рэсурсамі – невядома. Аднак і тут перад намі няма выбару. Застаецца верыць гэтым – ці не апошнім – абяцанкам цяперашніх чыноўнікаў.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## На заканчэнне

**Нагадаем, ад пачатку года ў Беларусі зафіксаваны самыя высокія тэмпы інфляцыі сярод краін СНД. Паводле звестак Міжнароднага статыстычнага камітэта СНД, у студзені – маі інфляцыя ў Беларусі склала 19,9%. Другі па велічыні паказчык у Расіі – 10,9%, затым ідзе Таджыкістан – 9,3%. Найменшыя паказчыкі росту спажывецкіх цэн адзначаны ў Азербайджане – 0,8, Грузіі – 1,3 і Казахстане – 3,7%.**

**Па матэрыялах БелаПАН.**

# Новы гарадскі рынак

**АШМЯНЫ. Пачаліся работы па ўзвядзенні новага рынку. Праектаванне правялі яшчэ летась.**

Архітэктар раёна **Вольга Абрамовіч** расказала, што асноўная мэта – аб'яднаць усе дробныя гандлёвыя пункты горада ў адну сістэму.

Тэрміны заканчэння работ невядомыя. Усё будзе залежаць ад наяўнасці грошай.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**



Ашмяны. Стыхійны рынак у цэнтры горада. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

## Рост вытворчасці без павелічэння зарплаты

**АШМЯНЫ. Рост аб'ёму прамысловай вытворчасці ў раёне за першыя паўгода вырас на 3,7% у параўнанні з такім жа леташнім перыядам.**

Але 54% прадпрыемстваў раёна працуюць са стратамі. Запазычанасць па зарплаце на 1 ліпеня ў раёне 267,3 мільёна рублёў. 241,6 мільёна прыходзіцца на сельскую гаспадарку.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

# Беднасць у Беларусі

**Калі выкарыстаць у якасці паказчыка рысы беднасці велічыню 4 долары ЗША на дзень, то Беларусь з'яўляецца адной з былых рэспублік Савецкага Саюза з самым нізкім узроўнем беднасці, а калі прымяняць нацыянальныя крытэрыі, то ўзровень беднасці будзе больш высокі (каля 1/3 насельніцтва). З дапамогай Сусветнага банка створаная добрая сістэма абследавання дамашніх гаспадарак, якая дазваляе паглядзець на рэальнае становішча спраў з беднасцю ў краіне.**

Хто з'яўляецца бедным у Беларусі? Агульныя характарыстыкі профілю беднасці ў гэтай краіне сходныя з характарыстыкамі іншых краін СНД, пра што сведчаць праведзеныя ў іх даследаванні. Так, як і ў гэтых краінах, дзеці тут падвяргаюцца найбольшай рызыцы аказацца за рысай беднасці, асабліва ў шматдзетных (трое і больш дзяцей) і няпоўных сем'ях. Узровень беднасці нашмат вышэйшы ў сельскай мясцовасці і сярод тых слаёў насельніцтва, у якіх нізкі адукацыйны ўзровень. Найменшая верагоднасць аказацца за рысай беднасці ў пенсіянераў. Гендэрныя адрозненні ва ўзроўні беднасці, як правіла, нязначныя.

**Асноўныя фактары:**

• Існуе цесная ўзаемасувязь паміж памерамі дамашніх гаспадарак і верагоднасцю трапіць за рысу беднасці. У малазабяспечаных дамашніх гаспадарках, у сярэднім, больш членаў сем'яў (перш за ўсё, дзяцей), чым у нябедных. Асабліва ўразлівымі з'яўляюцца дамашнія гаспадаркі з адным працоўным, дзе, як правіла, галоўнымі з'яўляюцца маці-адзіночкі (58% такіх гаспадарак з двума дзецьмі і больш з'яўляюцца малазабяспечанымі).

• Узровень беднасці сярод пенсіянераў складае 33% – гэты паказчык ніжэй за сярэдні па краіне. Беднасць сярод пенсіянераў змякчаецца тым, што многія з іх працягваюць працаваць, у тым ліку, і на прысядзібных участках. Акрамя таго, рэальная вартасць пенсій лепш абароненая ў параўнанні з іншымі бюджэтнымі выплатамі і зарплатай.

• Найбольш высокі ўзровень беднасці адзначаецца сярод дамашніх гаспадарак, члены якіх занятыя ў сельскай гаспадарцы – 55%, за імі ідуць работнікі сферы адукацыі – 37%.

• Узровень беднасці ў значнай ступені залежыць ад рэгіёна, а таксама ад мясцовасці: у гарадской – 33%, у сельскай – 43%. У той жа час, узровень беднасці вышэйшы ў Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях (41–44% насельніцтва) і самы нізкі – у Мінскай вобласці (19%). Нягледзячы на тое, што дамашнія гаспадаркі ў сельскай мясцовасці маюць большы доступ да зямельных участкаў і, такім чынам, большы даход у натуральным выражэнні, заработак па месцы афіцыйнай работы значна ніжэйшы.

• Па ўсім мяркуючы, існуе цесная сувязь паміж узроўнем адукацыі працаздольнага насельніцтва і ўзроўнем беднасці дамашніх гаспадарак. Да канца 1999 года 65% малазабяспечаных грамадзян у працаздольным узросце мелі агульную сярэднюю, пачатковую ці прафесійна-тэхнічную адукацыю, і толькі 10% мелі вышэйшую адуацыю.

• Часова беспрацоўныя працаздольныя грамадзяне таксама ўваходзяць у найбольш уразлівую групу – 52% дамашніх гаспадарак з такімі членамі былі малазабяспечаныя.

• Частата перыядаў і працягласць знаходжання за рысай беднасці маюць тэндэнцыю да павелічэння, ступень беднасці – да пагаршэння. Сярэдняя працягласць знаходжання за рысай беднасці на працягу года павялічылася з чатырох месяцаў у 1998 г. да шасці месяцаў у 1999 г.

**Заўвага.** У Рэспубліцы Беларусь беднасць вымяраецца з выкарыстаннем двух паказчыкаў – мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ) і пражытачнага мінімуму (ПМ). МСБ уяўляе сабой "карзіну тавараў і паслуг, неабходных для задавальнення асноўных фізіялагічных патрэб: ежа, адзенне і жыллё. Ён разлічваецца на падставе бягучых цэнаў для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп. ПМ складаў 60% МСБ да 1998 г., 65,7% у 1999 г. і 64,4% у 2000 г. Для параўнання выкарыстоўваецца рыса ў 60% МСБ, а дадзеныя аб профілі беднасці заснаваныя на выніках абследавання дамашніх гаспадарак (за выключэннем указаных выпадкаў). Выкарыстанне гэтых крытэрыяў можа ў выніку даць больш высокія паказчыкі беднасці ў параўнанні з тымі, што заснаваныя на рысе беднасці ў 2,15 і 4,30 долара ЗША на душу ў дзень, у адпаведнасці з якімі падушны індэкс беднасці складаў 1,0% і 10,4% адпаведна (дадзеныя 1999 г.).

**Падрыхтаваў Алег БЯГАНСКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 12 ліпеня | 19 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1392,00 руб. | 1403,00 руб. |
| Нямецкая марка | 611,90 руб. | 616,09 руб. |
| Літ | 347,91 руб. | 350,79 руб. |
| Расійскі рубель | 47,67 руб. | 47,98 руб. |
| Злоты | 308,99 руб. | 335,24 руб. |
| ЕЎРА | 1196,77 руб. | 1204,97 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1400 – 1430 руб. | 1430 – 1450 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.07 | 18.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2400 | 2400 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6310 | 7240 |
| Сасіскі, 1 кг | 2900 | 3100 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 550 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 450 | 430 |
| Цукар, 1 кг | 720 | 750 |
| Алей, 1 л | 860 | 860 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 250 | 280 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 460 | 480 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 400 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 650 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 300 |
| Агуркі, 1 кг | 400 | 250 |
| Памідоры, 1 кг | 1200 | 750 |
| Лімоны, 1 кг | 1450 | 1650 |
| Апельсіны, 1 кг | 1740 | 1800 |
| Абрыкосы, 1 кг | 1500 | 1500 |
| Кавуны, 1 кг | 950 | 600 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2400 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 800 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | 900 |
| Бульба маладая, 1 кг | 450 | 300 |
| Морква, 1 кг | | 600 |
| Чарніцы, малое вядро | 3500 | 3500 |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 3000 | 3000 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 2500 | 1500 |
| Суніцы, малое вядро | 5000 | 8000 |
| Маліны, малое вядро | 3000 | 4000 |
| Вішні, малое вядро | 3000 | 2000 |
| Агрэст, малое вядро | 2500 | 2500 |

■ СПАЖЫВЕЦ

## «Шэрыя» гадзіннікі належаць абмену

**МАЛАДЗЕЧНА. На гарадскім рынку жыхарка горада купіла ручны гадзіннік. У той жа дзень ён выйшаў са строю. Гадзіннік замежнай вытворчасці. Прадавец выдаў спажыўцу толькі чэк. Якія правы ў спажыўца?**

Старшыня Маладзечанскай арганізацыі па абароне правоў спажыўцоў **Уладзімір Клешч** тлумачыць:

– Ёсць спіс тавараў, якія не належаць абмену. Іх можна толькі адрамантаваць. У гэты спіс уваходзяць і гадзіннікі, але толькі тады, калі пакупка правільна аформленая. Гэта значыць, яны маюць пашпарт, у якім стаяць штампы прадаўца і дата куплі.

Калі прадавец вам не даў пашпарт, то гэты «шэры» тавар не падпадае пад дзеянне вышэйзгаданага спісу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ СЛУЖБА «01»

## Пажаранебяспечны перыяд

**ВАЛОЖЫН. З 16 ліпеня распараджэннем райвыканкома забаронены ўезд аўтатранспарту і наведванне насельніцтвам лясных масіваў раёна.**

Прычына – высокае пажаранебяспечнае становішча. Тэрмін заканчэння дзеяння распараджэння пакуль нявызначаны.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ «ДЗІЦЯЧАЯ ЭКАНОМІКА»

## Качаняты для выхаванцаў

**ВАЛОЖЫН. 300 маленькіх качанят прапісаліся днямі ў падсобнай гаспадарцы Івянецкага дзіцячага дома-інтэрната.**

Набылі іх у саўгасе "Вілейчы" Барысаўскага раёна. Апякаюць качанят выхаванцы інтэрната пад кіраўніцтвам работніцы інтэрната Ядвігі Кондрыкавай.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# За 3 матчы прапусцілі 13 галоў

**14.07 Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000 4:2 (0:1)**

**Арбітр** – Вялічка (Мінск), 2100 гледачоў.

**Галы:** Вусікаў (54), Булыга (85), Распопаў (89), Пішчур (90); Турчыновіч (27), Баранаў (62, аўтагол).

Турчыновіч (Млечка, 57) Сідарэнка (Багайчук, 74)
Карпіленка (Макрыцкі, 60)
Тартоўскі Азаронак
Дараховіч
Кабельскі
Сысой Бычкоўскі
Мураўйнікаў
Рубацкі

**Папярэджанні** – Сысой (чацвертае ў сезоне), Бычкоўскі.

**Лепшы па версіі "РГ"** – Азаронак.

27 хвіліна. **Карпіленка** падае вуглавы з левага фланга. **Азаронак** першым паспявае да мяча ля вонкавай лініі і галавою адпасаоўвае на блізкую штангу. **Турчыновіч** б'е на апярэджанне, і мяч ад штангі ўлятае ў вароты. 0:1.

54 хвіліна. **Саладухін** праходзіць па левым флянзе і навешвае ў штрафную на далёкую штангу, дзе ў барацьбе з **Рубацкім** гол забівае **Вусікаў**. 1:1.

62 хвіліна. Атака маладзечанцаў па левым фланзе завяршаецца праходам **Сысоя** да кута варатарскай, адкуль ён прастрэльвае ўздоўж варотаў. Абаронца **Баранаў** у барацьбе з нашым нападаючым паражае ўласную "рамку". 1:2.

85 хвіліна. Сысой прайграе барацьбу за мяч. Удар па варотах Рубацкі парыруе перад сабою, **Дараховіч** не паспявае згуляць на падборы, і **Булыга** зраўнівае лік. 2:2.

89 хвіліна. Масіраваная атака магіляўчанаў завяршаецца дакладным далёкім ударам па варотах у выкананні **Распопава**. Рубацкага дэзарыентуе футбаліст гаспадароў, які быў на шляху мяча (прычым у становішчы па-за гульнёй). 3:2.

90 хвіліна. **Муравейнікаў** і Дараховіч не замінаюць **Пішчуру** выйсці сам-насам з галкіперам. 4:2.

Лакаматыў-96 – Нафтан-Дэвон 4:0, Белшына – Гомель 1:0, Нёман-Белкард – Шахцёр 1:0, Тарпеда-МАЗ – Дынама (Б) 1:0.

**Бамбардзіры:** Кутузаў (БАТЭ) – 12; Давыдаў (Нёман-Белкард) – 10.

**У першым крузе забівалі:** Міхалёў, Турчыновіч – па 3; Азаронак, Кабельскі, Макрыцкі, Тартоўскі, аўтагол – 1.

**Рэйтынг лепшых футбалістаў каманды па версіі "РГ":** Азаронак, Міхалёў – па 4; Мігас – 3; Вільтоўскі, Дараховіч, Кабельскі, Сцепановіч – па 2; Бычкоўскі, Муравейнікаў, Рубацкі, Сідарэнка, Сысой, Тартоўскі, Турчыновіч – па 1.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Прарыў Аляксандра Багайчука ў дамашнім ФК «Маладзечна-2000» матчы з «Шахцёрам».**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 3:6 | 12 | 9 | 2 | 1 | 31-14 | 29 |
| 2. Белшына | 0:0* | 12 | 8 | 2 | 2 | 17-6 | 26 |
| 3. Нёман-Белкард | 0:3* | 13 | 7 | 4 | 2 | 22-7 | 25 |
| 4. Шахцёр | 0:0* | 13 | 6 | 4 | 3 | 17-11 | 22 |
| 5. Славія | 0:4* | 12 | 6 | 2 | 4 | 22-12 | 20 |
| 6. Гомель | 1:0* | 13 | 6 | 2 | 5 | 13-11 | 20 |
| 7. Дынама (М) | 1:3 | 10 | 6 | 1 | 3 | 22-10 | 19 |
| 8. Днепр-Трансмаш | 2:4 | 13 | 6 | 1 | 6 | 20-21 | 19 |
| 9. Тарпеда-МАЗ | 0:1 | 12 | 5 | 3 | 4 | 13-15 | 18 |
| 10. Дынама (Б) | 0:0 | 13 | 5 | 1 | 7 | 14-19 | 16 |
| **11. Маладзечна** | **##** | **13** | **3** | **3** | **7** | **11-24** | **12** |
| 12. Лакаматыў-96 | 0:1* | 13 | 3 | 1 | 9 | 10-26 | 10 |
| 13. Ведрыч-97 | 2:1 | 12 | 2 | 1 | 9 | 9-24 | 7 |
| 14. Нафтан-Дэвон | 2:1* | 13 | 1 | 1 | 11 | 5-26 | 4 |

**Зорачкай у турнірнай табліцы пазначаныя дамашнія матчы.**

## Табло

■ ШАХМАТЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра ў 12.30 у шахматным клубе «Папараць» пройдзе рэгіянальны камандны бліц-турнір (кожнаму ўдзельніку – 5 мінут на партыю) у гонар Міжнароднага Дня шахматаў.**

На мэце – высвятленне мацнейшай каманды рэгіёна па гульні ў бліц. І папулярызацыя шахматаў у рэгіёне. Невыпадкова, мусіць, што ідэю турніру падалі віляйчане.

Чэмпіёнам рэгіёна па бліцы стане каманда, якая набярэ больш за ўсіх ачкоў ва ўсіх сустрэчах. Хаця і тут захоўваецца інтрыга: можа стацца, што нейкая каманда выйграе ўсе свае сустрэчы, аднак па суме ачкоў застанецца на другім месцы. У гэтым выпадку пройдзе дадатковы матч за 1 месца. Пры нічыйным зыходзе першынство застаецца за тым, у каго ў турніры было найбольш ачкоў.

Сёння ў горадзе пройдзе адкрыты асабісты турнір па бліцы. Любому госцю з рэгіёна арганізатары будуць радыя. Шахматыстаў чакаюць а 18-й гадзіне.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ АРМРЭСТЛІНГ

**МЯДЗЕЛ. Другакурснік БДЭУ Валянцін Бабровіч на першынстве Еўропы па армрэстлінгу сярод юніёраў у Швецыі заняў два другія месцы: пераможцы вызначаліся асобна і на правую, і на левую руку.**

Мядзяльчанін гаворыць, што інтарэс да заняткаў гэтым відам спорту яго заахвоціў амерыканскі фільм «З усяе сілы» са Сільвестрам Сталонэ, героі якога штораз «на руцэ» і высвятлялі, хто з іх мацнейшы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДУБЛЬ

**13.07 Днепр-Трансмаш – Маладзечна-2000 1:0**

**Гол:** (32).

**Склад:** Сцепановіч (Асадоўскі, 56), Дрозд, Відрук (кап.), Альховіч, Лявончык, Млечка (Матусевіч, 46), Антановіч, Багайчук (Савіцкі, 75), Вільтоўскі (Маргун, 70), Макрыцкі, Чарнель.

Гэта быў не лепшы матч маладзечанцаў. Сцепановіч у пачатку сустрэчы парушыў правілы ў межах штрафной, але гаспадары не здолелі забіць пенальці. Затым Пішчур (правёў матч на добрым узроўні) разабраўся з абаронцамі і падвёў рысу пад першым кругам.

| | Г | П | Н | П | А | Галы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9. Маладзечна-2000 | 13 | 4 | 2 | 7 | 14 | 12–20 |

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**14.07 Вертыкаль (Калінкавічы) – Смаргонь 0:1 (0:0)**

**Гол:** Дзігілевіч (83).

**Склад:** Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Максіменка (Карабінскі, 73), Шпілеўскі, Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч, Відук, Шпакоўскі.

**14.07 Пінск-900 – Забудова 2:3 (1:0)**

**Галы:** (25), (88); Дзіковіч (47), Татун (82), Міpановіч (90-пен.).

**Склад:** Мядзведзеў, Урублеўскі, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, Астапенка (Кавальчук, 46), Балыкін, Міpановіч, Садчанка, Чумак, Дзіковіч (Бяспалы, 88), Парашчанка (Татун, 72).

У складзе гаспадароў выдалены гульцы на 88 і 90 хвілінах.

**18.07 Смаргонь – Пінск-900 2:0 (1:0)**

**Галы:** Шпакоўскі (12), Чарнуха (70-пен.).

**Склад:** Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Максіменка (Відук, 46), Шпілеўскі, Дукса, Селіванаў (Якубіцкі, 74), Дзігілевіч (Шаблінскі, 84), Шагойка (Каўрыга, 68), Шпакоўскі (Карабінскі, 80).

**18.07 Забудова – РВАР (Мінск) 0:0**

**Склад:** Мядзведзеў, Урублеўскі (Ал. Канапелька, 60), Д. Мятліцкі, М. Мятліцкі, Астапенка, Балыкін, Міpановіч, Садчанка, Чумак, Дзіковіч, Парашчанка (Бяспалы, 75).

**Выдалены** Дз. Мятліцкі на 78 хвіліне.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Людас Румбуціс: вынікі 1 круга

**– Калі ласка, спачатку колькі слоў пра матч у Магілёве.**

– Пасля такіх гульняў трэба месяц адыходзіць. Выйгравалі 2:1, маглі павялічваць перавагу, але загубілі галявыя сітуацыі **Млечка**, **Сідарэнка**, **Макрыцкі**, добрыя далёкія ўдары наносілі **Дараховіч** і **Сысой**. У канцоўцы правалілі гульнявую дысцыпліну абаронцы. Калі лік зраўняўся 2:2, магілёўскія трэнеры вельмі ўзрадаваліся набранаму ачку, аднак гэта быў яшчэ не вечар. У нас няма лідэра ў абароне. Не бралі ўдзел у матчы **Міхалёў** і **Мігас** (хутка яны паправяцца), што паслабіла атакуючую лінію.

**– Ваш аналіз першага круга ў цэлым.**

– Мы гулялі нядрэнна, за выключэннем другога тайма сустрэчы з віцяблянамі. Гродзенцам, лічу, саступілі выпадкова, недабралі ачкоў у матчах з "Тарпеда-МАЗам" і "Дняпром-Трансмашам". У суме магло быць на 4-6 ачкоў болей. Не хапіла досведу ўзяць, што называецца, сваё. Добрыя зыходы матчаў з моцнымі "Гомелем" і "Белшынай".

**– Аценіце лініі, асобных футбалістаў.**

– Жудасна шмат прапусцілі. Прычым шмат момантаў меў толькі БАТЭ, астатнім жа шанцавала выкарыстоўваць рэдкія галявыя сітуацыі. Самы надзейны з абаронцаў **Азаронак**, мала памыляўся **Кабельскі**, з перападамі адгулялі **Муравейнікаў**, Сысой і **Бычкоўскі**. Ёсць прэтэнзіі да варатароў. Пакуль лепш выглядае **Рубацкі**. Міхалёў, **Тартоўскі**, Мігас – лідэры ў паўабароне. Не закрытая ў нас пазіцыя апорнага паўабаронцы. На жаль, у Магілёве не хапіла фізічных кандыцый Дараховічу. Грукаюцца ў дзверы асновы дублёры **Млечка**, **Лявончык** і **Смірноў**, які значна дадаў. Вялікія праблемы з нападзеннем. **Сідарэнку** падводзіць тэхнічны брак. **Макрыцкі** не заўсёды разумее, чаго ад яго патрабуюць, у Магілёве чамусьці імкнуўся гуляць сваёй нерабочай левай. Нейкія перапады ў **Турчыновіча**: і ў гульні, і ў настроі.

**– Ці хапіла колькасці абаронцаў?**

– Не. Душа баліць, калі стаўлю туды Азаронка – чалавека, які ўмее ствараць у атацы. Абавязкова з'явіцца ў складзе яшчэ адзін абаронца; магчыма, навічкоў будзе двое. Прозвішчы назаву праз тыдзень.

**– Як фінансавае становішча?**

– Грошы нам даюць патрошкі. Трымаемся. Цяпер галоўная праблема – дзе трэніравацца. Стадыёны ДЮСШ і СШ №5 не падыходзяць, у Беразінскім ужо таксама поле "дабілі". Футбалістаў жа трэба вучыць гуляць з паднятай галавою, а я на такіх палях нават не магу даць неабходныя практыкаванні. Нармальныя ўмовы толькі на гарадскім стадыёне. Ёсць яшчэ абяцанні ўвесці ў строй комплекс ля завода "Электрамодуль".



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Людас Румбуціс на «капітанскім мосціку» ФК «Маладзечна-2000».**

**– Зімою на канферэнцыі федэрацыі футбола гаварылася, што ДЮСШ будзе мець добрае асноўнае поле і нават запасное.**

– На ДЮСШ цяпер нічога не зроблена, дзеці гуляюць у хакейнай каробцы (каб зрабіць добрае поле, у школы элементарна няма грошай – **аўт.**).

**– Як праведзяце перапынак паміж кругамі?**

– У сераду мы заехалі на збор пасля трохдзённага адпачынку. У пятніцу правядзем двухбаковую гульню на гарадскім стадыёне ў 17-30. Запрашаем балельшчыкаў. У панядзелак – выезд да БАТЭ двума складамі. У суботу, 28-га павінны распачаць другі круг у Мазыры, аднак, магчыма, гэты матч будзе перанесены.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Анонс

**21.07 Маладзечна. Адкрыты асабісты бліц-турнір па шахматах.**
**22.07 Рэгіянальны (па тэрыторыі распаўсюджвання «РГ») камандны бліц-турнір па шахматах. Абодва - у шахматным клубе «Папараць» - Маладзечна, вул. Забэйды-Суміцкага, 2.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**22.07 РВАР (Мінск) – Смаргонь**
+1=1-4 2-7. Летась 0:2 на выездзе і 1:0 дома.

**22.07 Дынама-2 (Мінск) – Забудова**
+0=0-2 1-4. Летась 1:2 дома і 0:2 на выездзе.

**27.07 16-00 Дынама-2 (Мінск) – Смаргонь**
+1=0-1 3-2. Летась 1:2 на выездзе і 2:0 дома.

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем
з сярэбраным вяселлем
**Наталлю Сяргееўну і Міхаіла Феліксавіча Гайковічаў!**



Дарагія мама і тата!
Для нас вы самыя лепшыя людзі на свеце. Будзьце шчаслівыя, здаровыя, заўсёды радасныя!
*Сяргей, Толя.*

Віншуем **Наталлю Сяргееўну і Міхаіла Феліксавіча Гайковічаў** з прыгожым юбілеем сумеснага жыцця!
Зычым здароўя, бязвоблачных дзён, жадаем зберагчы і пранесці праз жыццё пяшчоту і ласку першых сустрэч!
*З павагай, супрацоўнікі рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты".*

Віншую **Ніну Яўгенаўну Шафаловіч** з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Дачка Сняжана.*

Віншуем **Галіну Гулецкую** з юбілеем! Жадаем радасцяў зямных, любові родных, шчасця і здароўя. *Дочкі і зяці.*

Віншуем **Алега Уладзіміравіча Шылу** з юбілеем! Шчасця, здароўя, даўгалецця, кахання, сямейнага дабрабыту. *Сястра Ірына і яе сям'я.*

Віншуем з днём нараджэння **Сяргея Карніловіча** з Вілейкі! Жадаем шчасця, даўгалецця, кахання, моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту. *Цёця Іра і яе сям'я.*



# ЗНАЁМСТВЫ

42/172/82, Леў, разведзеная, без ж/п, пазнаёміцца з самастойным мужчынам 38-45 год для стварэння сям'і. Маладзечна-7, п/п МС0240658.

Прывабная жанчына пазнаёміцца з мужчынам без шк/зв. для сур'ёзных адносін. Пра сябе: 54/158/68. Маладзечна-6, п/п №712448.

Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для стварэння сям'і. Пра сябе: сімпатычная, 33/168/58, в/а, без шк/зв. і жыллёвых праблем. Маладзечна-6, п/п МС0651415.

Жанчына (40/164/63) пазнаёміцца з самастойным мужчынам да 45 год для стварэння сям'і. 222415, Вілейскі р-н, в. Куранец, п/п XVI-OK №551015.

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Для канспірацыі



У кожным горадзе ёсць свае «гераічныя» асобы, пра якіх ці не легенды складваюць. З'едлівыя, у асноўным, але то іншая гісторыя. А гэтую байку расказаў колішні работнік КДБ. Ён сцвярджаў, што гісторыя, нягледзячы на яе нейкую фантасмагарычнасць, сапраўды была ў Маладзечне.

У пачатку 80-х, калі ён толькі пачынаў сваю кар'еру рыцара плашча і кінжала, напярэдадні чарговага 1 мая завітаў у гараддзел нейкі дробны стары. Ледзь толькі той зайшоў, усе наяўныя супрацоўнікі пачалі скрозь зубы мацюкацца. Прычым згадвалі не абстрактных персанажаў звычайных мацюкоў, а чамусьці нядобрыя словы адрасавалі дзядулю Леніну і яго сваякам (?).

Калі навіна дайшла да начальніка, той загадаў, каб са старым займаўся «новенькі» (разам з тым знаёмым прыйшоў у аддзел яшчэ адзін супрацоўнік, назаву яго Губіным). Ён нават знешне вызначаўся неўтаймаванай энергіяй і прагай дзейнасці. І меў ён яшчэ адну выбітную якасць – здольнасць маніць, неадрыўна гледзячы проста ў вочы.

Усе астатнія супрацоўнікі ведалі пра непазбежны балаган, таму выйшлі праз запасны ўваход і прыладзіліся ля адчыненага акна кабінета (той быў на першым паверсе) Губіна.

– Ну, і хто ты такі? Чаго табе патрэбна? – бадзёра і напорыста пачаў Губін.

Стары адказаў сумна і плаксіва:

– Я сын Леніна!

– Пашпарт ёсць?

– Ага, вось.

– Так, зразумела. Ленін калі памер? А ты калі нарадзіўся? Дык што, атрымліваецца, твая маменька 3 гады цяжарнай хадзіла? Так?

– Дык гэта ж для канспірацыі.

– І што ж ты хочаш?

– А чаму вы мне паперу не даяце, што я сын Леніна?

– Ты хоць сам разумееш, што гаворыш? Калі мы табе такую паперу зладзім, то прыйдзецца афіцыйна прызнаць, што Ленін з тваёй мамай Крупскай здрадзіў? І як пасля гэтага піянераў выхоўваць? А? Ды ўвесь дзяржаўны строй абрынецца, уся ідэалогія ляжа! Ты гэта разумееш?

– Ды я пра гэта неяк не скеміў, – збянтэжана-усхвалявана працягнуў стары.

– Ну, дык жа, разважаць трэба. Чаго табе яшчэ?

– А чаму вы мяне на кожныя святы ў «дурку» запіхваеце? Я ж не псіх.

– Не хацеў табе гаварыць, вельмі ўжо сакрэтная інфармацыя. Аднак, бачу, ты мужык свой, усё разумееш. Глядзі.

Тут Губін дастае з сейфа пухлую папку, з шумам апускае яе на стол, затым корпаецца ў паперах. Раптам тыцкае пальцам у нейкую старонку:

– На, вось, глядзі. Звышсакрэтная шыфроўка з ЦРУ! Усім агентам ЦРУ ў дні нацыянальных святаў забіваць дзяцей Леніна, Сталіна, Хрушчова. І іншых. Узнагароджванне ў памеры гадавога акладу. Зразумеў цяпер?

– Чорт, што ж вы мне раней не сказалі? Я б і сам засцярогся лішні раз!

– Добра, зробім так. Пера святамі купляеш сабе харчоў дні на тры-чатыры і носа на вуліцу не паказваеш. Калі ўбачыш, што за табою сочаць, патэлефануй з аўтамата «000» і дзьмухні ў трубку тры разы. Мы прышлем людзей, і яны тых «прыбяруць». Яшчэ пытанні ёсць?

– А чаму мяне на работу нікуды не бяруць? Я ж токар.

– А вось глядзі, яшчэ адна шыфроўка. Усім агентам усяляк сабатаваць работу дзяцей і іншых сваякоў правадыроў. Зразумеў? Яны ж табе гайкі ў станок будуць кідаць – а табе гэта патрэбна? Не? Усё, свабодны.

Стары той больш у гараддзеле не з'яўляўся. Хаця, па неправераных звестках, кожнае свята з пад'езда аднаго з дамоў выбягаў дробны дзядок, набіраў у тэлефоне-аўтамаце «000» і тройчы дзьмухаў у трубку. Затым азіраўся і рушыў дадому.

Да таго выпадку ён даставаў усіх некалькі год. І ніхто яго не змог адшыць так, як Губін.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Парады пакупніку

Не хапіла фарбы, каб абнавіць падлогу. Ведаючы, што бываю ў розных кутках Мядзельшчыны, жонка сказала:

– Пацікаўся ў сельскіх магазінах, адной бляшанкі хопіць.

Раблю спробу набыць тавар у Свіры, Слабадзе, Нарачы і Крывічах. Чую:

– Фарбу такую не завозілі.

– Толькі-толькі распрадалі.

– Скончылася.

Я ў магазіне вёскі Княгінін. Заўважаю, што на паліцы фарбы для падлогі няма. Вырашыў не задаваць звыклае пытанне, а дзейнічаць інакш. Пільна ўглядаюся ў твары прадаўшчыц, яны гэта прыкмецілі, перашэптваюцца. Каб не звярнуліся з пытаннем, я іх апярэдзіў:

– Прынясіце са склада бляшанку фарбы для падлогі, тую, што стаіць на паліцы.

З месца не зрушыў, гляджу на дзверы склада. Адна з жанчын накіравалася на склад і прынесла фарбу.

– Плачу за дзве, нясіце і тую бляшанку, што стаіць побач, – мовіў сур'ёзна, у думках цешыўся, што без фарбы дадому не вярнуся, заслужу падзяку жонкі.

Разлічыўся за пакупку і працягваю хадзіць ад прылаўка да прылаўка. Прадаўшчыцы паміж сабой прыцішана вядуць размову. Я да іх:

– Ці верыце таму, што магу бачыць праз сцяну?

– Не верым, але як маглі даведацца, што патрэбная вам фарба стаіць на складзе?

– Вельмі проста. Надакучыла пытацца ў прадаўцоў пра тую фарбу. Нідзе не было. І ў вас бы не купіў, каб не схітрыў.

Жанчыны камусьці гэтую фарбу прыхавалі і палічылі, што той чалавек пра гэта сказаў мне.

Дома былі задаволеныя пакупкай.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

**ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ** на мінулае пытанне: прозвішча найвядомай няні Аляксандра Пушкіна – Якаўлева. Першая патэлефанавала **Тацяна Касіла** з Аляхновічаў, якой і дастаецца запрашэнне ў кінатэатр «Радзіма». Крыху спазніліся **Алёна Пісава і Сяргей Баранаў**, але правільныя адказы на нескладане пытанне не даў больш ніхто, таму білеты ў кіно атрымліваюць і яны.

**НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ.** «Усе гісторыі, калі іх расказаць да канца, заканчваюцца... ». Завяршыце фразу вялікага рэаліста Э. Хэмінгуэя.

Пераможцу чакаюць запрашальныя білеты на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма». Тэлефануйце 69667 па сераду ўключна або пішыце на адрас рэдакцыі.

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Шпроты з агуркамі і яйкамі

**1 бляшанка шпротаў, 2–3 яйкі, звараныя крута, 1 пучок зялёнай цыбулі, 1–2 маласольныя агуркі, 1 стручок чырвонага перцу, перац, соль.**

Шпроты выкласці на доўгае блюда ў два рады "елачкай". Абабраныя ад скуркі агуркі нарэзаць дробнымі кубікамі і абкласці шпроты. Зверху раскласці кружочкі перцу, пасыпаць парэзанай зялёнай цыбуляй, сечанымі яйкамі і паліць алеем з бляшанкі са шпротамі.

# Квас з ягад

**500 г ягад (маліны, клубніцы, чырвоныя парэчкі), 400 г цукру, 20 г дражджэй.**

Ягады прамыць, расцерці, заліць кіпнем (2 л) і накрыць. Праз 12 гадзін працадзіць, дадаць цукар, дрожджы, размяшаць, накрыць і пакінуць у цёплым месцы на 12 гадзін. Гатовы квас разліць у бутэлькі і паставіць у халоднае месца на 3 дні.



## Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 29

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

Рэгіянальная газета

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.




**Адказ на крыжаванку, змешчаную ў №28**

**Па гарызанталях:** 2. Папуас. 7. Соска. 12. Пара. 13. Драматург. 15. Папаха. 16. Апачы. 17. Скарга. 19. Мроя. 20. Мех. 22. Калым. 23. Рыжык. 24. Ані. 25. Асака. 27. Дрожкі. 32. Ат. 33. Дата. 34. Акын. 35. Лір. 36. Накрыўка. 38. Міёры. 40. Атам. 42. Кант. 44. Гук. 46. Гагара. 49. Долар. 51. Пі. 52. Какава. 53. Дога. 54. Аш.

**Па вертыкалях:** 1. Апіска. 2. Папка. 3. Ара. 4. Папрыка. 5. Архар. 6. Саамы. 7. Смаржок. 8. Стаяк. 9. Кучма. 10. Арыенцір. 11. Яга. 13. Дагматык. 14. Апо. 18. Аладка. 21. Хітрыкі. 26. Статак. 27. Даўка. 28. Ракада. 29. Жым. 30. Кніга. 31. Іл. 32. Анагр. 37. Анод. 39. Ёг. 41. Мак. 43. Тло. 45. Упа. 47. Га. 48. Ра. 50. "Ра".

## ■ 90 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У «НАШАЙ НІВЕ»

**Вільня, 31 марца.** Віленскае Губэрнскае Праўленьне зацьвярдзіла статут "Беларускаго Музыкально-Драматычнаго кружка". Такім парадкам у скорасці будзе ў Вільні першы беларускі клюб, дзе тутэйшые беларусы могуць зьбірацца на вечарынкі, на беларускія прадстаўленьні, слухаць сваіх песень і т.д. Пры гэтым стане ўжо на моцны грунт і справа беларускага тэатру, бо дагэтуль беларускія артысты і харысты ня мелі, дзе прытуліцца. Шчыра жадаем, каб хаця на восень клюб ужо аткрыўся.

**Вільня.** У час Вялікодных сьвят у сажалцы каля маставой вуліцы дзеці, гуляючы, знайшлі адрубаную галаву нейкай дзяўчыны. Дзяўчына было забіта з восені ешчэ, мела каля 15 гадоў. Як сьведчаць пазлачоныя завушніцы, была з беднага стану. Цела дагэтуль не знайшлі, і не дайшлі хто яна і з якой прычыны і кім забіта.

**В. Пагост, Віленск. губ. Дзісн. пав.** Тут адзін маскаль у чысты чэцьвер устаў досьвіта і пабег купацца на ручэй, бо вераць тут, быццам той, хто выкупаецца ў чысты чацьвер досьвіта ня будзе мець ніякай нячыстаты круглы год, але, каб не сусед, да хаты б не дапоўз, пасьля такой купелі, бо як скочыў у ваду, то яго ўсяго скруціў паралюш.

**Самаходка**

## ■ 75 ГОД ТАМУ ПРА НАШ КРАЙ У «БЕЛАРУСКАЙ КРЫНІЦЫ»

**Пажарніца, Вялейскага пав.** Было ў нас сьмешнае здарэньне. Знайшоўся ў нашай вёсцы такі хлопец, які натрапіў стукнуцца з паліцыянтам. Павёў гэты хлопец на торг у Даўгінава карову прадаваць, а дзеля гэтага, што ня меў двух злотых заплаціць за месца на рынку, ён затрымаўся на баку за варотамі і чакае пакуль брат пазыча і прынясе два зл.

Паліцыянт увідзеўшы, што ён не вядзе карову ў загарадку, падыйшоў да яго і давай лаяцца і пхаць у загарадку. Потым запісаўшы яго фамілію, пайшоў сабе. Праз некалькі дзён у нашу вёску прыходзіць гэты паліцыянт і спатыкаецца з тым самым хлопцам у старасты. Разгаварыўшыся там аб выпадку з каровай, ды ізноў паспорылі, і тут паліцыянт разлаваўшыся ўдарыў хлапца па твары. Хлопец тады ў яго пытае, ці мае ён права біць, паліцыянт кажа, што мае права і ўладу. На гэта наш хлапец калі выража яму па вуху так, што паліцыянт расьцягнуўся на зямлі, а на дадатак яшчэ дастаў нагой пад бок. Паліцыянт чуць устаў ды скарэй пацягнуўся зь вёскі. На заўтра хлапец падаў у суд на паліцыянта. Праз нейкі час суддзя заве абаіх і сьведкаў, ды давай нагаварываць, каб памірыліся, бо гэта паліцыянту пагражае 3 месяцы турмы. Хлопец і згадзіўся. На гэтым усё і скончылася.

**Беларуская крыніца.**
**Тыднёвая сялянская газэта.**
**Вільня, 21 сакавіка 1926 г., №10**

## Гараскоп 23 – 29 ліпеня



**Авен**
(21.03–20.04)

23 ліпеня памятайце, што дрэнны мір лепш за добрую сварку і паспрабуйце трымаць сябе ў руках. У наступныя дні вы зможаце паспяхова заняцца самарэкламай. З 26 ліпеня пачнецца чарговы віток абуджэння эканамічнай актыўнасці. Некаторыя клопаты даставіць недамаганне і непаслухмянасць дзяцей.



**Цялец**
(21.04–21.05)

23 ліпеня вам захочацца пабыць у адзіноце (нават поўнай ізаляцыі ад свету) і заняцца самавызначэннем у сваіх дзеяннях і планах на другую палову года. З 26-га асноўнымі стануць клопаты пра дамашні ачаг.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

23 ліпеня дазволіць значна ўмацаваць матэрыяльныя пазіцыі і нарасціць фінансавую эфектыўнасць працы. Можна сказаць, што вам плаціць будуць авансам, у разліку на будучую аддачу. 26-га перажыванні асабістага характару азмрочаць перыяд. І ў гэтым, дарэчы, адыграюць адмоўную ролю сябры.



**Рак**
(22.06–23.07)

23-24 ліпеня вы зможаце прадэманстраваць навакольным свае неабмежаваныя магчымасці ў сферы зносінаў і наладжвання сувязяў. Гэта можа выклікаць зразумелую рэўнасць і зайздрасць, што не прынясе нічога прыемнага. З 26 ліпеня да канца перыяду - добры час для заработкаў пра дамамозе інтэлекту. Узрадуюць дзеці.



**Леў**
(24.07–23.08)

23 ліпеня прысвяціце медытацыі, духоўным практыкам, малітвам і псіхалагічным практыкаванням. У наступныя дні гэта дапаможа пазбегнуць лішніх затрат энергіі і зберагчы нервовую сістэму. 26-га ліпеня адкрые сезон высокай актыўнасці. Сонца ў вашым знаку надасць упэўненасці ў рэалізацыі новых праектаў, нават інтымных.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Вам трэба будзе надаваць шмат часу праектаванню і пралічванню намечаных прадпрыемстваў. Магчыма, вы ў чымсьці нядаўна памыліліся, таму крыху прытармазіліся справы і абвастрыліся асабістыя стасункі. Падумайце, што вы не так зрабілі і неадкладна выпраўце сітуацыю. Наогул, гэты перыяд лепш правесці з паперамі, але не з людзьмі.



**Шалі**
(24.09–23.10)

23 ліпеня займіцеся карэкціроўкай планаў, яны яўна патрабуюць перагляду. Калі гэтым не заняцца цяпер, то ўсе пачынанні могуць быць зменены. З 26-га пачнецца перыяд актыўнай групавой дзейнасці і ўзаемадзеяння з тымі, хто можа аказаць вам значную дапамогу і падтрымаць фінансамі.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

23 ліпеня – у нейкай ступені, вырашальны дзень, калі вы атрымаеце шмат знакаў і сімвалаў, у якіх і давядзецца разбірацца ўвесь перыяд. З 26-га – узыходжанне па сацыяльнай лесвіцы. Прасоўванне ў кар'еры, набыццё некаторай вядомасці (магчыма, скандальнай). Пачатак шляху да значных перабудоў.



**Стралец**
(23.11–21.12)

23 ліпеня прысвяціце малітвам, ідзіце ў храм, выкажыце падзяку людзям, якія вас падтрымліваюць. З 26-га – рост інтэлектуальнага патэнцыялу. Вы зможаце не толькі прадуктыўна працаваць у асвоенай сферы, але нават вынайсці... веласіпед. Выкарыстайце гэты перыяд для работы на будучае.



**Казярог**
(22.12–20.01)

23 ліпеня вы адчуеце сябе ў абсалютнай гармоніі са светам і людзьмі. Добры дзень для калектыўнай працы. Дарэчы, з 26-га вам давядзецца шмат працаваць у камандах. Магчымая камандзіроўка ці кароткая пазнавальная паездка. Да вас вельмі нечакана прыбудуць госці здалёк.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Да 26 ліпеня вы яшчэ зможаце атрымаць асалоду ад апошніх гадзін спакою і задавальненняў. Потым пачнецца час пераменаў, якія не будзе лёгкі. Вы акажацеся на шляху да зусім іншага стану, вы адчуеце сябе змяёй, якая хваравіта выпаўзае са старога «адзення». Затое новае абяцае быць!..



**Рыбы**
(20.02–20.03)

З 26 ліпеня адкрыецца сезон клопату пра сябе, любімага. Можна сказаць, што вы адашляце ўсіх навокал як мага далей і будзеце атрымліваць сапраўдную асалоду толькі ад уласнай добраахвотнай адзіноты. Магчымыя нязначныя фінансавыя паступленні. Разам з тым, старыя запазычанасці нагадаюць пра сябе. Лепш разлічыцца неадкладна.




Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8210 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№29 (326) 20.07.2001.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 19.07.2001



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»